I ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове ТРАВЕНЬ-2 2012

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну




## За што кіроўца Mercedes збіў веласіпедыста?

стар. 4

«Калі трэнер у твар кажа словамі, якіх я не чуў, нават калі наведваўся ў турму»

стар. 6

«Застабілы, як твой муж, павінны здохнуць»

стар. 2

Вінаваты ў гібелі гомельскага чыноўніка студэнт пакараны 4 гадамі пазбаўлення волі стар. 3



# «Застабілы, як твой муж, павінны здохнуць»

***Сям'і гамельчука, чыё імя трапіла ў «інтэрнэт-тролінгавы» скандал, пагражаюць невядомыя.***

Жыццё інтэрнэт-троляў на першы погляд выглядае беспраблемным — сядзіш за камп'ютарам, правакуеш іншых карыстальнікаў, а пасля яшчэ і атрымліваеш за гэта грошы. Аднак ёсць і другі бок медаля.

На тых, чыю асобу западозрылі ў тролінгу, сыплюцца абразы і пагрозы ад неабыякавых беларусаў. І даказаць, што цябе падставілі і ты не маеш дачынення да правакатараў, бывае надзвычай складана.

З такой сітуацыяй сутыкнулася сям'я 24-гадовага гамельчука Андрэя Куцэнкі.

«Пасты, адпаведныя поглядам патрыятычна настроенага чалавека». «Неабходны постынг у каментарах на некалькіх сайтах. Усе сайты палітычныя і апазіцыйныя. Сутнасць пастоў — адэкватныя каментары, цалкам адпаведныя поглядам патрыятычна настроенага чалавека, які прытрымліваецца кіруючага рэжыму (па сутнасці — у каментах трэба аспрэчыць артыкул)», — некалькі аб'яваў з такім зместам, якія з'явіліся на сайце free-lance.ru, зацікавілі беларускіх інтэрнаўтаў. Цікава, колькі плацяць беларускім сеціўным «тролям» і якія патрабаванні выстаўляюцца да іх працы?

«Наша Ніва» паспрабавала знайсці аўтара аб'яваў. Яны належаць чалавеку пад нікам Pacavaca. Апроч чатырох «палітычных» праектаў, ад яго імя размяшчаліся шматлікія прапановы аб раскрутцы гомельскага сэрвера камп'ютарнай гульні World of Warcraft, шукаліся спецыялісты па Фоташопе і нават аўтары іранічных чатырохрадкоўяў.

Указаныя на сайце імёны ў скайпе і асьцы якраз і прывялі да Андрэя Куцэнкі. Калі карэспандэнт «НН» звярнуўся да яго і прадэманстраваў гатоўнасць за грошы «патроліць» на форумах, той адразу ж адказаў, што да аб'яваў дачынення не мае: «Вы ўжо трэці, хто піша па гэтым пытанні. Ніякай працы не размяшчалася». Не працадаўца, а выканаўца.




На наступны дзень мы пагрукаліся ў скайп да Андрэя, цяпер ужо прадставіўшыся «Нашай Нівай». Ён падрабязна расказаў сваю таямнічую гісторыю.

Па словах Андрэя, ён сапраўды меў акаўнт на сайце free-lance.ru, аднак іншы, не як працадаўца, а як выканаўца. Што да «фальшывага» акаўнта, то частка заданняў насамрэч звязана з ранейшай дзейнасцю Андрэя. Зрэшты, і нік Pacavaca ён часцяком выкарыстоўвае на розных форумах.

«На акаунце ёсць аб'явы ад сэрвераў гульні World of Warcraft. Я гэтым раней займаўся. Аднак усе мае сэрверы закрытыя, бо гэта пачало парушаць ліцэнзійныя правы кампаніі Blizzard, а ўсе памочнікі былі распушчаныя, — тлумачыць ён. — Раней я часцяком шукаў дапамогі на форумах, напрыклад, па стварэнні нейкіх скрыптоў і напрацовак. І многія заданні на free-lance.ru капіююць мае пасты на іншых форумах».

Хто б мог займацца такою бздурай?

Як жа ўвогуле з'явіўся фальшывы акаўнт і каго ў гэтым падазрае Андрэй? «Калі я прасіў дапамогі ў рэалізацыі чагосьці, — чалавек посціў аб'яву на Фрылансе і падшукваў для мяне рэальных памочнікаў. Цяпер жа з незразумелых прычынаў гэты ж чалавек посціць палітычныя аб'явы, — мяркуе Андрэй. — Я падзяляю некаторыя пазіцыі Лукашэнкі, аднак не настолькі, каб пісаць пасты ў яго падтрымку.

Нават не ведаю, хто мог бы займацца такою бздурай? Напэўна, гэта нехта з хлопцаў, якія раней займаліся са мной серверамі».

На старонцы Андрэя «УКантакце» ў меню «дзейнасць» пазначана АГП. Што гэта значыцца? «Я не ўваходжу ў склад партыі, але мне падабалася пазіцыя Раманчука. Пасля выбараў я неяк не сачу за гэтым. Зрэшты, і Раманчук ужо не ў АГП».

Так ці інакш, з пагрозамі сутыкнуліся і Андрэй, і ягоная жонка. «Усе мае дадзеныя ёсць у сеціве, і я ні ад каго іх не хаваю. Яшчэ некалькі дзён таму „УКантакце“ былі адкрытыя нават мае адрасы. Аднак цяпер людзі дадаюцца да мяне і да жонкі ў сябры і пішуць розную ерась. Напрыклад, жонцы прыйшло: „Застабілы, як твой муж, павінны здохнуць“. Учора даслалі і смс-паведамленне.

Я сапраўды не ведаю, як паўплываць на сітуацыю, як абараніць сваю сям'ю», — прызнаецца ён.

*Ягор Марціновіч*

# Вінаваты ў гібелі гомельскага чыноўніка студэнт пакараны 4 гадамі пазбаўлення волі

***Кіраўніка адміністрацыі аднаго з гомельскіх раёнаў збілі на пешаходным пераходзе 31 снежня 2011 года.***

Законную моц набыў прыгавор па справе аб гібелі кіраўніка адміністрацыі Чыгуначнага раёна Гомеля Сяргея Краўцова.

50-гадовы мужчына загінуў 31 снежня 2011 года пад коламі аўтамабіля. 21-гадовы вадзіцель, студэнт другога курса БНТУ, прызнаны вінаватым і пакараны чатырма гадамі пазбаўлення волі з пазбаўленнем права на працягу пяці гадоў кіраваць транспартным сродкам. Вадзіцель поўнасцю прызнаў сваю віну, паведамілі ва ўпраўленні Следчага камітэта па Гомельскай вобласці.

Нагадаем, апоўначы Сяргей Краўцоў пераходзіў дарогу па пешаходным пераходзе, ідучы з магазіна. Тым часам святлафоры ўжо не працавалі і пераход быў нерэгуляваны.

На «зебры» адзін аўтамабіль спыніўся, каб прапусціць пешахода, і ён тым часам пачаў рух — аўтамабіль «Опель-Астра», які рухаўся па суседняй паласе, збіў мужчыну насмерць.

У цырымоніі развітання з кіраўніком адміністрацыі раёна ўдзельнічала кіраўніцтва вобласці і горада, а таксама прыкладна 500 гамяльчан.

*БелаПАН*

Ну, як жыццё?
- Ак у бульбы.
- ?
- Калі за зіму не зьядуць, то ў весну пасядзяць.

# У Гомелі дзве школьніцы хацелі скончыць жыццё самагубствам

***Яны спрабавалі скочыць у Сож.***

Супрацоўнікі спецназа УУС Гомельскага аблвыканкама і Навабеліцкага аддзела дэпартамента аховы МУС выратавалі двух школьніц, якія ўвечары 9 мая спрабавалі скончыць жыццё самагубствам, паведамілі ў прэс-службе УУС Гомельскага аблвыканкама.

А восьмай вечара ў міліцыю патэлефанавалі мінакі, распавёўшы, што дзве дзяўчыны збіраюцца скокнуць у ваду з аўтамабільнага моста цераз раку Сож. Цягам пяці хвілін туды прыбылі міліцыянты.

Пад'язджаючы да моста, яны ўбачылі, што адна дзяўчына ўжо скокнула ў ваду. Тры міліцыянты кінуліся за ёю.

Дзяўчыне дапамаглі даплысці да берага і перадалі брыгадзе хуткай дапамогі. З дыягназам «пераахаладжэнне» школьніцу даставілі ў бальніцу. Пакінутую на мосце дзяўчыну байцы спецназа пераканалі не скакаць.

Паводле папярэдніх звестак, рашэнне дзесяцікласніцы адной з гомельскіх школ звесці рахункі з жыццём было выклікана праблемамі асабістага характару:

у адной сапсаваліся адносіны з хлопцам, у другой нядаўна памерла сяброўка.

МУС рыхтуе дакументы на ўзнагароджанне супрацоўнікаў, якія выратавалі жыцці падлеткам.

*БелаПАН*

# Чыгунныя сметніцы карыстаюцца папулярнасцю ў злодзеяў у Гомелі

***Чыгунныя сметніцы і лаўкі сталі папулярнымі аб'ектамі злачынных замахаў у Гомелі.***

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе УУС Гомельскага аблвыканкама, 7 мая была распачата крымінальная справа па факце крадзяжу шасці чыгунных сметніц на вуліцах у мікрараёне Сельмашаўскі. Шэсць сметніц ацэнены ў 2,8 млн. рублёў.

7 мая таксама распачата крымінальная справа па факце крадзяжу невядомым у раёне каскада азёр па вуліцы Петруся Броўкі шасці паркавых лавак і шасці сметніц коштам больш як 10 млн. рублёў.

У Навабеліцкім раёне 7 мая распачата крымінальная справа ў дачыненні да жыхара Гомеля, які спрабаваў выкрасці металічныя парэнчы падземнага пераходу даўжынёй 31,5 метра на 7,8 млн. рублёў. Аднак не давёў свой злачынны намер да канца — быў затрыманы міліцыяй.

*Алена Германовіч, БелаПАН*






# Гомель: за што кіроўца Mercedes збіў веласіпедыста?

***Мужчына, які пацярпеў у выніку гэтага дарожнага канфлікту, цяпер у шпіталі.***

Паводле звестак яго сяброў, у яго шматлікія траўмы, у тым ліку пералом шыйкі сцягна. Найбліжэйшыя паўгода яму трэба будзе перасоўвацца з дапамогай мыліц. Гэта наступствы бойкі, якая разгарэлася проста на праезнай частцы ў цэнтры Гомеля, недалёка ад скрыжавання вул. Хатаевіча і вул. Савецкай. Як расказалі следчыя УУС Гомельскай вобласці, 31-гадовы гамяльчанін, рухаючыся на ровары, «не падзяліў дарогу» з кіроўцам мікрааўтобуса. У выніку апошні выйшаў з машыны і збіў маладога чалавека.

На форуме Onliner.by пакінула паведамленне жонка пацярпелага, зарэгістраваная пад нікам vilka81: «Калі вы сталі сведкам канфлікту, які ўзнік 4 мая на скрыжаванні вул. Савецкай і Хатаевіча ў Гомелі паміж кіроўцам белага мікрааўтобуса Мэрсэдэс і веласіпедыстам, адгукніцеся, калі ласка. Мой муж пасля гэтага канфлікту ў цяжкім стане. Дапамажыце пакараць вінаватага. Падыдзе ўсё: фота, відэа з мабільнага і любыя падрабязнасці. Мужа збілі пасярод скрыжавання, пакінулі ляжаць на дарозе».

Следчы, які вядзе гэтую справу, каментуе: «Сапраўды, бойка была. З заявы і апытанняў удзельнікаў і сведкаў вядома, што абодва транспартныя сродкі стаялі ў заторы перад скрыжаваннем.

Веласіпедыст рухаўся па праезнай частцы. Мабыць, аўтамабіль не даваў яму беспераш-кодна ехаць. Пацярпелы стукнуў рукой па кузаве. Пасля гэтага кіроўца напаў на яго.

Малады чалавек упаў. Судмедэкспертыза, якая адбудзецца ў чацвер, мае вызначыць, у выніку чаго былі атрыманыя траўмы. Ад гэтага залежыць артыкул, па якім будзе заведзеная крымінальная справа. Цялесныя пашкоджанні расцэньваюцца як цяжкія. Цяпер 31-гадовы гамяльчанін знаходзіцца ў траўматалагічным аддзяленні бальніцы, стан яго здароўя стабільны. Кіроўца ў выніку канфлікту не пацярпеў».

Больш ярка апісвае сітуацыю жонка веласіпедыста: «У мінулую пятніцу каля 17:15 мне патэлефанаваў муж. Па голасе было зразумела, што яму балюча. Ён сказаў, што пацягнуў нагу і не паспее забраць дзіця з дзіцячага садка. Таму што ў той дзень ён паехаў у горад на ровары. Ён летам ездзіць менавіта на ім — з прынцыпу. У нас ёсць машына, але ў цёплы сезон муж імкнецца як мага радзей садзіцца за руль — ён спартсмен, займаецца весlаваннем і імкнецца падтрымліваць форму. Мабыць, ён тады не сказаў праўды, каб я не хвалявалася. Пазней яго сябры паведамілі, як усё адбылося насамрэч».

У агульных рысах версіі УУС і маладой жанчыны супадаюць, за выключэннем некаторых дэталяў.

«Кіроўца, рухаючыся ў заторы, размаўляў па мабільным тэлефоне, таму не заўважыў двухколавы транспарт і пачаў „прыціскаць“ мужа, — кажа яна. — Каб звярнуць на сябе ўвагу, муж стукнуў па кузаве і крыкнуў: „Паглядзі, куды ты едзеш“. Неўзабаве яны абодва спыніліся. Кіроўца выйшаў і, нічога не кажучы, ударыў некалькі разоў па твары і галаве мужа. Той не адказваў, толькі ўхіляўся. Пасля чарговага ўдару (па патыліцы) ён страціў прытомнасць і ўпаў.

Ёсць меркаванне, што мужчына не спыніў збіццё — біў нагамі.

Потым, наколькі мне вя-



ПРАФЕСІЯ?
СЫН

Не было праблем, пакуль не купіў гараж...

# Гомель: за што кіроўца Mercedes збіў веласіпедыста? Працяг

дома, ён з'ехаў. Пры гэтым ніхто з гараджан не паспрабаваў адцягнуць яго, ніхто не дапамог, пакуль працягвалася збіццё. А была гадзіна пік — многія здымалі канфлікт на тэлефон (цяпер я спрабую знайсці на YouTube ролікі, пакуль беспаспяхова). У выніку хтосьці патэлефанаваў у ДАІ — вырашыў, што веласіпедыста збілі. Прыехала „хуткая", Дзяржаўтаінспекцыя. І тут на месца здарэння вярнуўся той самы белы мікрааўтобус. Вінаваты, мабыць, спалохаўшыся пакарання, нават прапанаваў завезці ровар куды скажуць. А мужа даставілі ў бальніцу».

«Далей пачаліся разборы, якія таксама суправаджаліся стрэсам, — працягвае гісторыю жонка веласіпедыста. — У шпіталь прыехаў міліцыянт, усіх апытаў. Да палаты падышоў і нападнік. Ён прасіў прабачэння, гаварыў, што не хацеў, сцвярджаў, што „проста не стрымаўся". Фізічна ён здаўся мне не моцна развітым. На выгляд яму каля 37 гадоў, рост не больш за 1,7 метра. Чаму ён накінуўся на мужа, мне не зразумела — адэкватных прычын не было. Потым мне трэба было дамагчыся ад праваахоўных органаў, каб судмедэкспертызу прызначылі ў самыя кароткія тэрміны. Абяцалі яшчэ ў панядзелак, а выйшла (пасля маіх скаргаў і званкоў начальству), што яна адбудзецца толькі ў чацвер, перад аперацыяй, якую прызначылі дактары».

Маладая жанчына да гэтага часу шукае фота- і відэасведчанні канфлікту.

Для чаго? «Паводле словаў калегаў следчага, вінаватаму бойкі могуць „прыпісаць" ненаўмыснае (падкрэслю) нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў, — кажа яна. — Маўляў, муж нанёс сабе калецтва, упаўшы. Я ўпэўненая, што кіроўца працягваў яго біць пасля падзення. Мой муж — здаровы малады чалавек, ён не мог зламаць шыйку сцягна, стукнуўшыся аб асфальт. Калі ў мяне ў распараджэнні будуць медыяматэрыялы, змагу даказаць — усё было наўмысна. Гэта зусім іншы артыкул Крымінальнага кодэкса.

Калі хтосьці мае якую-небудзь інфармацыю, пазваніце па тэлефоне (8–029) 372-09-74».

*auto.onliner.by*

Сям'я едзе ў машыне. Малы сын:
- Мама, а ты мне машынку, як у таты, купіш?
- Вядома, і машынку куплю, і гараж, і сяброў алкашоў, каб усё было як у таты.

# Набор у беларускамоўныя класы — цяпер таксама Гомель, Брэст

***У горадзе над Сожам ужо сабраўся невялікі клас, у горадзе над Бугам набор пачнецца ў чэрвені.***

У гомельскай гімназіі №36 імя І. Мележа працягваецца набор у першыя класы, у тым ліку з беларускай мовай навучання. Як паведамілі «НН», на дадзены момант пададзена каля 4 заяваў, прыём дакументаў працягнецца да 15 чэрвеня.

У гомельскай гімназіі №36 дзейнічае тры музея, шэраг гуртоў — фальклорныя, тэатральныя, этнаграфічныя спартыўныя. Пры гімназіі традыцыйна ладзяцца «Мележаўскія чытанні».




Кантакты: Гомель, гімназія № 36 імя І. Мележа (бр. Лізюковых, 16). Т.: (0232) 48-10-27, 48-13-73.

У брэсцкай пачатковай школе №34 летась у першы клас з беларускай мовай навучання пайшлі вучыцца 5 дзяцей. Сёлета набор яшчэ не пачаўся. «Заявы будуць прымацца з 2 чэрвеня па 28 жніўня», — паведамілі ў школе.

*Кантакты: Брэст, пачатковая школа №34 (Маскоўская, 386/1). Т.: (0162) 42-02-72.*




ГумНо СПАРТЫУНАЕ

# «Калі трэнер у твар кажа словамі, якіх я не чуў, нават калі наведваўся ў турму»

***Пасляматчавая прэс-канферэнцыя трэнераў БАТЭ і «Гомеля» скончылася гучным скандалам.***

12 мая прайшлі матчы 10-тура чэмпіянату Беларусі па футболе. У цэнтральнай гульні «Гомель» на сваім полі прайграў БАТЭ — 0:1 (Бага, 40). Гэта ўжо восьмая запар перамога барысаўскага клуба.

Пасляматчавая прэс-канферэнцыя галоўных трэнераў скончылася скандалам. Галоўны трэнер БАТЭ Віктар Ганчарэнка пакінуў яе пасля пытання журналіста, а галоўны трэнер «Гомеля» Алег Кубараў дэманстратыўна не прыйшоў на яе разам Ганчарэнкам, а спецыяльна з'явіўся пазней і выказаў усё, што думае пра падзеі вакол матча і клуб БАТЭ:

«Калі трэнер у твар кажа словамі, якіх я не чуў, нават калі наведваўся ў турму… Мне пасля гэтага ў Барысаў ехаць не хочацца наогул»:

Мне пасля гэтага ў Барысаў ехаць не хочацца наогул. Я падумаю ехаць ці не.

Калі перад камандай і мной выбачацца [магчыма, гаворка пра неадэкватныя выказванні Арцёма Канцавога адносна супернікаў пасля матча -- НН], тады будзем думаць. А калі не, то грош-цана такім супернікам. Яны проста не паважаюць сваіх калегаў.

Можна ў газетах разводзіць мусі-пусі, брат-сястра. Але калі табе ў твар кажуць такія рэчы, то разумееш, хто за гэтым усім стаіць.

Абразілі не мяне асабіста, абразілі ўсіх. Прыходзіць 9 тыс., на вачах у дзевяцi тысяч трэба ж трошачкі думаць. Разумею хакеісты, яны могуць біцца, лаяцца. Трэнер клуба, які гуляе ў еўракубках, павінен разумець.

Відаць, перад Пелегрыні [трэнер "Малагі", а раней мадрыдскага "Рэала" і "Вільярэала"] ці перад кім там на задніх лапах ходзяць, азадак цалуюць, пакажыце нам распавядзіце. А тут такое стаўленне.




***

Іншыя матчы: «Мінск» — «Белшына» — 3:0, «Нафтан» — «Нёман» — 2:1, «Тарпеда» — «Дынама» Мінск — 0:0, «Славія» — «Брэст» — 2:1.

Пасля 10 тураў: БАТЭ — 24, Гомель — 20, Шахцёр — 16, Мінск, Дынама Мінск — 13, Белшына, Нафтан — 11, Славія — 10. Нёман — 8, Брэст — 7, Тарпеда — 6.

Усе каманды згулялі па 9 матчаў, толькі «Белшына» — 10.

Матчы 11 тура (апошні тур 1-га кола) пройдуць у пятніцу, 18 мая; 20 мая пройдзе фінал Кубка Беларусі: «Мінск» — «Нафтан».

*nn.by*

# Кантрабандысты спрабавалі нелегальна ўвезці ў Беларусь зубную пасту і БАД для коней

***У пункце пропуску «Цяруха» на беларускай мяжы пры афармленні на выезд цягніка Санкт-Пецярбург — Кіеў гомельскія памежнікі сумесна з супрацоўнікамі мытні знайшлі на даху аднаго з вагонаў даволі спецыфічны тавар.***

Як паведамілі ў прэс-цэнтры Дзяржпагранкамітэта Беларусі, у вентыляцыйным корабе невядомыя схавалі вуглавую шліфмашыну «Макіта»; гукавую сістэму «Кенвуд»; механізм падачы дроту для зварачнага апарата, гайкі і падшыпнікі рознага дыяметра, пальчаткі зваршчыка, а таксама зубную пасту для коней — два вядры па 10 кг і тры бутэлькі па 400 грамаў біялагічна актыўных дабавак зноў жа для коней.

Нелегальны груз коштам больш чым 20,5 мільёна рублёў канфіскаваны супрацоўнікамі мытні.

*БелаПАН*

Суддзя, перад тым як пасадзіць бульбу, зачытвае ёй прысуд.




## DIFFERENZE LINGUISTICHE
































# Ігар Случак просіць райвыканкамы праінфармаваць яго аб захадах па папулярызацыі беларускай мовы

***Аўтар ідэі грамадзянскай ініцыятывы «Справаводства па-беларуску!» Ігар Случак звярнуўся да кіраўнікоў усіх раённых выканаўчых камітэтаў з запытам аб тым, якія мерапрыемствы і захады будуць прымацца выканаўчымі органамі ў 2012 годзе з мэтай папулярызацыі і развіцця беларускай мовы. Таксама актывіст ставіць пытанне: ці будзе павялічвацца ў іх працэнт беларускамоўнага справаводства.***

Ініцыятыва «Справаводства па-беларуску!» пачыналася ў 2009 годзе менавіта з перапіскі з райвыканкамамі, калі ім прапаноўвалася пераводзіць дакументы на беларускую мову. У некаторых органах гэта дало свой плён, а ў цэлым праз гэту перапіску быў у выніку зменены закон «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб», у адпаведнасці з якім зараз адказы на беларускамоўны пісьмовы зварот павінны даваць па-беларуску.







«Таму мы не можам пакідаць без увагі гэтыя адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі – раёны і прадстаўнікоў ўлады там. Яны найбліжэй да народа, і лепш бачаць, што яму патрэбна. І калі людзі сапраўды захочуць больш шырока ўжываць беларускую мову, менавіта кіраўніцтва райвыканкамаў будзе тым правадніком, што пашырыць інтэнсіўнасць і аб'ём выкарыстання беларускай мовы. А калі гэта адбудзецца ў адным раёне, падтрымаюць і астатнія. У сваю чаргу мы будзем рады дапамагчы ім у развіцці нашай дзяржаўнай беларукай мовы», - мяркуе Ігар Случак.

Грамадзянская ініцыятыва «Справаводства па-беларуску!» - сябра Асамблеі НДА (Літва), займаецца лабіраваннем змен у заканадаўстве, накіраваных на падвышэнне статуса і заканадаўчай абароны беларускай мовы. У 2012 годзе прыярытэтнымі для кампаніі з'яўляюцца накірункі забеспячэнне беларускай мовы ў сферы рэкламы, камунікацыі, культуры і адпачынку.




*Зміцер Літвінаў*




M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
"Гомельскія Навінкі травень-2 2012"
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246050, г. Гомель, вул. Мазаева, 17,
рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2012"

Надрукавана на
Папяровай фабрыцы
"ГумНо", г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.

Тыраж: 266 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.




Мы ў сацыяльных сетках:
***vkontakte.ru:*** http://vk.com/gumno2007
***facebook.com:*** http://www.facebook.com/profile.php?id=100003262396346
***Вольга Пыхава:*** http://vk.com/volha_pyhava
***Аляксей Венецыянаў:*** http://vk.com/id167202367

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA